Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

# Газета для вас

26 красавіка 1997 года
СУБОТА
№ 20
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 444 руб.
Цана ў розніцу – 1000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### ГДЕ ОНО, БОЛЬШОЕ МОЛОКО?

**БАРАНОВИЧИ.** Если в 1995 году в районе не было ни единой доярки-пятитысячницы, то по результатам прошлого года она появилась. Зинаида Юльяновна Сидорович из колхоза „Рассвет" надоила от каждой коровы по 5889 килограммов молока. Четырёхтысячниц тоже не густо – всего пять животноводов. Откуда же быть рвению, если у сельских тружеников гораздо ниже зарплата, чем в городе, и выдают её еще реже.

### "ІВАНІЧЫ" ПАКАРЫЛІ ПАЛЯКАЎ

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У сапраўдны аазіс цеплыні, любові і дабрыні ператварыўся конкурс песні, прысвечаны Тадэвушу Касцюшку, які ладзіўся ў польскім горадзе Рацлавіцэ паблізу Кракава. У музычным фэсце, адным з прэстыжных у краіне, бралі ўдзел самадзейныя артысты Івацэвіцкага гарадскога Дома культуры – прадстаўнікі з радзімы нацыянальнага героя Польшчы.

У конкурснай праграме выступіў аркестр народнай музыкі „Іванічы" (мастацкі кіраўнік Вячаслаў Куліпіч). У яго выкананні файна прагучалі польскія старадаўнія маршы, мазуркі, паланэзы. Трыо ў складзе Галіны Крынец, Святланы Пархомік і Галіны Дзянісік падарыла слухачам некалькі песень на іх роднай мове. Па-польску гучалі і вершы, якія прачытала Ірына Радзюк. Усё гэта выканана з любоўю, пазначана талентам іх выканаўцаў, высокай тэхнічнасцю і невераґоднай апантанасцю. Івацэвіцкія артысты без перабольшвання сталі каралямі балю: журы прысудзіла ім найвышэйшую ўзнагароду фэсту – Гран-пры ЮНЕСКА і прэмію. Іх здымала Кракаўскае і Варшаўскае тэлебачанне.

Палякі гасцей любяць. І каб любыя госці пачуваліся добра, для іх наладжваліся экскурсіі па Кракаву, сустрэчы з аматарамі мастацтва ў вёсках і гарадах. „Іванічы" і фальклорны калектыў „Каланянка", які таксама ўдзельнічаў у замежнай паездцы, далі за два дні пяць канцэртаў. І ўсюды апладысменты, апладысменты.

### ПАЎВЕКА ДОЎЖЫЦЦА БОЛЬ

**БЯРОЗА.** 10 мільёнаў рублёў асабістых зберажэнняў ахвяраваў 80-гадовы пенсіянер Шлёма Ашэравіч Вайнштэйн на ўзвядзенне помніка яўрэям, расстраляных фашыстамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны на Броннай гары. Памятны знак стаіць на тым месцы, дзе 50 тысяч яўрэяў знайшлі свой апошні прытулак.

### ТАЛЕНТ ПА-РАНЕЙШАМУ Ў ПАШАНЕ

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Што ўмеюць нашы дзеці? Многае. Аб гэтым яскрава расказала раённая выстава мастацкай творчасці школьнікаў.



## *ВЯЛІКДЗЕНЬ – Уваскрэсенне Хрыстова*



*Сем тыдняў праваслаўны люд ва ўсім свеце рыхтуецца да сустрэчы самага светлага, узнёслага і жаданага свята. І вось гэты дзень наступае. 27 красавіка, на самым пачатку дня, будзе абвешчана ў храмах навіна, якая хвалюе ўсіх хрысціянаў на працягу амаль двух тысячагоддзяў – ХРЫСТОС УВАСКРОС! І наша вялікапоснае ўстрыманне ад грэшных памкненняў, дзеля ўзвышэння духоўнага і ачышчэння душы, знойдзе свой водгук у гэтых святочных днях выключнай падзеі – Уваскрэсення Госпада. І мы, хто шануе традыцыі хрысціянаў, прыйдзем у храм з святочным настроем і з „пасхаю" для асвяшчэння ўжо 26 красавіка, бо царкоўным уставам пакладзена не асвячэнне пачаць у канцы Літургіі (абедні) Вялікай Суботы і працягваць да канца Літургіі Пасхальнай, г. зн. да сярэдзіны дня 27 красавіка. Асвячаную „пасху" – сырны пірог і чырвоныя яйкі – сімвал блажэннага існавання для тых, хто жыве па Хрысту, дазваляецца ўжываць пасля ўдзячнай малітвы, услаўлення Уваскрэслага Збаўцы і нашага сцверджання, што Ён – „Сапраўды Уваскрос!"*

•••

*Два святы на свеце – ад нівы да нівы:*
*Хрыстос уваскрос! наступае вясна!*
*Глянь смела, глянь вольна, шчаслівы, нешчаслівы*
*І далей к жыццю з паніжэння і сна!*

*Гэй, гэй, на спатканне вялікіх двух святаў!*
*Спяшыце супольна, хто ў путах ня згніў!*
*Хай льюцца-зыльюцца ад хаты да хаты*
*У вадно ўсе грамады, усе людзі ўсіх ніў!..*

*Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,*
*Адвечных ня можам пазбыцца слёз...*
*Наперад па шчасце! Хай злое ўсё дрогне,*
*Вясна ўжо на свеце, – Хрыстос уваскрос!*

Янка КУПАЛА.

*ПА-СУСЕДСКУ МЫ ЖЫВЁМ*

## ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ

### БУДЗЕ ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ ПАЛЕССЯ

**ПІНСК.** Партызанскі атрад Героя Савецкага Саюза генерал-маёра В. З. Каржа змагаўся ў глыбокім тыле ворага 1119 дзён, у гады Вялікай Айчыннай вайны стаў буйным злучэннем народных мсціўцаў. Першым партызанам Палесся вырашана ўзвесці помнік у горадзе.

Гарвыканкам і Міністэрства культуры РБ правялі конкурс, на якім лепшым праектам прызнана работа скульптара А. Бачкарова і архітэктара М. Волкава. Створан аргкамітэт па ўзвядзенню. Адкрыты спецыяльныя рахункі ў мясцовым філіяле „Беларусбанка" і Мінскім аддзяленні „Масбізнесбанка", на якія паступаюць грашовыя сродкі ад працоўных калектываў, прадпрымальнікаў, ветэранаў вайны і працы.

### ХТО ШУКАЕ, ТОЙ ЗНАХОДЗІЦЬ

**ГАНЦАВІЧЫ.** 63 аўтамашыны розных марак – такім „арсеналам" тэхнікі валодае буйнейшая ў раёне міжкалгасная перасоўная механізаваная калона № 7. На жаль, многія грузавікі ўжо вычарпалі свой матарэсурс, а набыць сёння новыя не кожнаму па кішэні. Таму кіраўніцтва МПМК не сядзіць, як кажуць, склаўшы рукі, шукае фронт работ для сваёй тэхнікі не толькі ў раёне, але і за межамі яго. Такая разваротлівасць прыносіць прыбытак, што дазваляе ў сваю чаргу абнаўляць машынны парк. Вось і сёлета ён папоўніўся адразу трыма адзінкамі: „Супер-МАЗам", „МАЗам" і „Газеллю".

### ВОДГУЛЛЕ АПОШНЯЙ ВАЙНЫ

**ІВАНАВА.** Мясцовыя рыбакі на рэчцы Неслуха выцягнулі невядам снарад. Да прыезду з Пінска сапёраў 152-міліметровы артылерыйскі снарад-фугас, які ляжаў на дне з часоў Вялікай Айчыннай вайны, быў узяты пад ахову. Спецыялісты ж доўга з небяспечным уловам не цырымоніліся: тут жа, на беразе, выкапалі яміну, апусцілі туды снарад і ўзарвалі.

Гэта не першая такая знаходка. Рыбакі ўспомнілі, што восенню 1994 года ў водах Неслухі яны выявілі 250-кілаграмовую авіябомбу, якую таксама абясшкодзілі сапёры.

### ГЕМАТАГЕН АД „ЭКЗОНА"

**ДРАГІЧЫН.** Біяхімзавод – будоўля, якая сумнавядома не толькі ў раёне, але і далёка за яго межамі. Будаўніцтва гэтага монстра былой саюзнай біяхімічнай прамысловасці пачалося яшчэ да распаду СССР. Узводзіліся вытворчыя карпусы, пракладваліся інжынерныя сеткі, раслі аб'екты цепла- і водазабеспячэння, да рабочай пляцоўкі праклалі чыгуначны пуць. Пасля распаду Саюза снег, вецер ды дажджы гаспадарыць на анямелай, парослай бур'янам будоўлі.

Заводу, здавалася, беспаваротна прыйшоў канец. Але вось з'явіўся хоць і невялікі, аднак абнадзейваючы парастак. У памяшканні, якое прызначалася для пажарнага дэпо завода, пачаў працаваць цэх па выпуску дзіцячага гематагену магутнасцю 100 тон у год. Асноўная прадукцыя – пліткі гематагену – ідзе ў аптэкі, дзіцячыя ўстановы.

Калектыў завода з экзатычнай назвай „Экзон" не мае намеру спыняцца на дасягнутым. Цяпер ідзе аснашчэнне цэха вадкай і масляной экстракцыі, які ўлетку гэтага года пачне выпрацоўваць сіроп шыпшыны і іншыя лекавыя экстракты. Плануецца наладзіць выраб харчовай крышталічнай глюкозы, гематагену з вітамінам „С" для хворых на цукровы дыябет і страўнікава-кішэчныя захворванні.

### МАЛАКАВОЗ ЗАЕХАЎ НА КУХНЮ

**СЛОНІМ.** Незвычайная аўтамабільная аварыя здарылася ў райцэнтры. Грузавы аўтамабіль з цыстэрнай і прычэпам, гружаным малаком, на вялікай хуткасці ўрэзаўся ў жылы дом. Машына ўшчэнт разнесла веранду і заехала на кухню. На шчасце, у той час у хаце нікога з жыхароў не было.

З дома малакавоз давялося выцягваць пад'ёмным кранам. Міліцыя лічыць, што аварыя адбылася па прычыне няспраўнасці хадавой часткі машыны. Страты ад аварыі падлічваюцца. Аднаго малака разлілося 5 тон на суму амаль 600 долараў.

(Падборка падрыхтавана па матэрыялах абласнога і рэспубліканскага друку).

## ПОПЕЛ ЧАРНОБЫЛЯ СТУКАЕ Ў СЭРЦА КОЖНАГА З НАС

*Сёння наша рэспубліка адзначае журботную дату: 11-ю гадавіну з дня катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.*

*Чарнобыль – гэта:*

*...2,2 мільёны пацярпелых беларусаў;*

*...звыш 400 апусцелых назаўсёды вёсак;*

*...звыш 600 школ і дзіцячых садкоў, якія ніколі больш не напоўняцца звонкім смехам;*

*...звыш 6 тысяч квадратных кіламетраў зямель, выведзеных з гаспадарчага карыстання;*

*...131 тысяча чалавек, пераселеных у іншае месца;*

*...110 тысяч ліквідатараў, якія назаўсёды засталіся хворымі;*

*...звыш 2 мільёнаў чалавек, што жывуць сёння на забруджанай тэрыторыі;*

*...катастрафічнае павелічэнне паталогіі шчытападобнай залозы, асабліва ў дзяцей;*

*...урон, нанесены краіне ў 235 мільярдаў долараў ЗША.*

*Дзяржава, паслухай! Попел Чарнобыля стукае і ў тваё сэрца!*

● БИБЛИЮ ЧИТАЕМ ВМЕСТЕ

# ХРИСТОС ВОИСТИНУ ВОСКРЕС!

(Продолжение. Начало в №№ 3, 5, 7, 9, 11, 13–18).

Дорогой читатель! Можно ли подыскать достойные слова восхищения, восторга, благодарности нашему Небесному Отцу за этот неоценимый подарок. Всем людям возвещено о самом невероятном событии в истории человечества. Видел ли кто, чтобы мертвый поднялся из гроба? Более того, чтобы воскресший навсегда остался жить, и люди всей земли не в состоянии забыть это, выходящее за все известные нам законы происшествие, год за годом не пропуская ни одного из них, торжественно восклицали: „Христос воскрес!" Что ответите вы, дорогой читатель, на подобное приветствие в это апрельское воскресное утро? Уверен, „Воистину воскрес!" Но задумайтесь над значением сказанного. Вспомните, сколько родных, близких вам людей ушло из этой жизни. Сколько слез, отчаяния, боли принесла вам эта страшная утрата. Задумывались ли вы о том, куда ушли все они? Что происходит с ними сейчас? Если вы на самом деле верите, что Христос воистину воскрес, тогда попробуйте объяснить, где Он сейчас, что с Ним, какой Он. Откуда вы вообще узнали, что Иисус воскрес из мертвых? Если это так, то для чего Он это сделал? Почему это событие стало для нас праздником и какое отношение все это имеет к вам лично?

От всего сердца поздравляю вас, люди эпохи благодати и милосердия Божия. Праздник Пасхи – это самый драгоценный день в нашей судьбе. Каждый из нас может быть сопричастным этому торжеству победы жизни над смертью. Бог во Христе открыл доступ человека к вечной жизни.

Каким стал воскресший Иисус? Его тело, новое, прославленное, было узнаваемо. Ученики сразу узнали Христа, хотя и испугались, подумав, что перед ними привидение (дух). Иисус показал им руки, ноги, ребра. Он ел с ними, позволял им прикасаться к Себе. Иоанн так и скажет: „что осязали руки наши..." В то же время воскресший Иисус проникал сквозь стены, мог появляться и исчезать, слышать разговор, не находясь в присутствии говорящих. Более того, Он, преодолев все законы тяготений, вознесся в глазах потрясенных учеников. Сегодня могила Иисуса пуста! Он вечно жив! Но какое отношение это имеет к нам, простым смертным людям? Самое прямое!

Христос назван Первенцем из мертвых, верующие в это и живущие по Его законам – последователи. Мало того, все воскресшие со Христом, получат тело „сообразное славному телу Его" (послание филиппийцам 3:20–21). Другими словами, воскресение Иисуса Христа является демонстрацией нашей будущности! Это принадлежит нам, Его последователям! Каждому человеку земли Бог желает дать новое тело, сообразное Христову. Возникает вопрос о том, что Тело Христа не познало тления, а наше истлевает. Как же связать этот факт с воскресением мертвых во Христе? Дело в том, что Иисус-Бог пришедший с небес. Он не сделал ни одного греха, поэтому и не тлел в земле. Мы же – прощенные грешники, пэтому взятые из праха земного должны и вернуться в него. Новое же тело не материально, но духовно. В первом послании коринфянам Апостол Павел пишет о том, что есть тело душевное (тленное), есть духовное (нетленное). 1–Кор. 15:35–58.

Что же значит для нас праздник Пасхи? Во-первых, это праздник послушания и доверия Богу. Евреи в этот день удаляли из домов всякую закваску. Грех должен быть удален из сердец – это подготовка внутреннего человека к воскресению. Далее евреи мазали кровью косяки входных дверей своих домов. Это означает, что за грехи наши пролилась кровь Христа-невинного Агнца, приготовленного Богом для нашего оправдания. Евреи ждали утра, не выходя из домов. Это сегодня значит, что покаявшийся, прощенный во Христе человек не должен более прикасаться к миру греха, то есть не грешить более, иначе жертвы больше нет. Всю ночь евреи пели псалмы и ели испеченного ягненка с горькими травами. Так же и мы должны размышлять о всей прожитой греховной жизни, чтобы славить Бога за Его прощение и, исповедывая грехи, раскаиваться в них и сознательно делать дела, соответствующие званию христианина. Наша жизнь – подготовка к переходу в вечность. Пасха – освобождение и переход в мир счастия и вечного присутствия в раю Божием. Каждому Бог желает дать новое тело, которое не тлеет больше, но живет полноценной, блаженной жизнью.

С праздником Воскресения Христова, дорогие читатели! Мир вам от Господа Бога и Христа Иисуса, Спасителя всех людей!

**С любовью к Вам, священнослужитель Ивацевичской церкви „Рождества Христова" КОНСТАНТИН.**

(Продолжение следует).

● ВАШЕ ПИСЬМО

# Доверяй, но проверяй

*В последнее время в Ивацевичское отделение Белгосстраха обращаются граждане района, заключившие договора страхования животных, домашнего имущества, строений с неизвестной альтернативной страховой кампанией. Для этих граждан оказывается неприятным сюрпризом тот факт, что Белгосстрах не несет перед ними никакой ответственности по имеющемуся у них страховому полису.*

*Беседа с гражданами, заключившими страховой договор с неизвестной кампанией, позволила выяснить, что единственным поводом для заключения договора в этих случаях, является заманчиво низкий страховой взнос. Но из этой же беседы выясняется, что гражданин внёс свои достаточно большие деньги страховой организации, которая не сообщила ему ни своего названия, ни условий страхования, ни адреса человека, заключившего с ним договор от имени кампании, ни его фамилии, ни телефона для справок.*

*Итак, страхователь, уплатив деньги, начинает искать того, кто же должен оплатить ему последствия страхового события, прямой материальный ущерб, понесённый им.*

*Имея немалый опыт страховой работы, я попробовала поставить себя на место такого доверчивого гражданина и найти место, куда обратиться за страховым возмещением.*

*После длительных телефонных звонков мне удалось поговорить с женщиной, занимающейся делами этой страховой кампании в г. Бресте. При этом она отказалась сообщить мне какие-либо сведения о своих представителях, работающих в нашем районе. Полной неожиданностью для нее оказался вопрос о наличии и номерах лицензий на проведение страховой деятельности по видах страхования, на которые эта организация имеет лицензии.*

*Это позволяет сделать вывод, что данная страховая организация заинтересоеана в том, чтобы создать максимальные трудности для своих клиентов, если те вдруг вознамерятся получить страховое возмещение по своим договорам. Считаю своим долгом напомнить гражданам: прежде чем внести страховой взнос, имейте ввиду, что в Ивацевичском районе действует только одна страховая государственная организация, отделение которой расположено в г. Ивацевичи, по ул. Матросова, 10. Страховые агенты Белгосстраха имеют служебные удостоверения с фотографией и печатью, действующие до 31.12.1997 года. Эти люди заключают договора со страхователями на бланках Белорусской государственной страховой организации. Граждане, заключившие договора с нашей организацией, защищены государственными гарантиями при наступлении страхового случая.*

*Негосударственные страховые кампании в течение всего периода своей деятельности проявили финансовую неустойчивость. Многие из них прекратили свою деятельность, не выполнив обязательств перед страхователями. Лицам, заключившим договоры страхования с негосударственной страховой организацией, могу сообщить лишь то, что для реализации своих прав на страховое возмещение им нужно следовать в г. Брест и разыскивать свою страховую кампанию. А нашим страхователям наш адрес известен. А вот телефон для справок 2-15-58.*

***М. ТОМИЛОВИЧ,* *директор отделения Белгосстраха по Ивацевичскому району.***

● РЫНОЧНАЯ ПЛОЩАДЬ

# ЧТО ПОЧЁМ?

**Цены на рынках нашего региона в прошлые выходные (в тысячах рублей за один килограмм) были следующие:**

| | Ивацевичи | Барановичи | Берёза |
|---|---|---|---|
| Свинина | 48–50 | 50–65 | 55–65 |
| Сало свежее | 45 | 45–50 | 40–50 |
| Масло растительное | 28 | 26–28 | 30 |
| Сахар | 12 | 13 | 12 |
| Яйца (1 десяток) | 20–22 | 18–20 | 20–22 |
| Молоко (3 л) | 12 | 16 | 12 |
| Творог | 15 | 18–20 | 15–18 |
| Масло крестьянское | 50–55 | 60–65 | 50–60 |
| Сельдь пряного посола | 37–40 | 28–33 | 38–39 |
| Яблоки | 10–12 | 10–14 | 8–12 |
| Апельсины | 28–30 | 28–30 | 28 |
| Бананы | 30–35 | 28–30 | 27 |
| Лимоны | 38–40 | 40–45 | 40 |
| Огурцы свежие | 23–25 | 24 | 26 |
| Огурцы соленые | 15 | 18 | 15 |
| Помидоры свежие | 55 | 60–63 | 55 |
| Лук репчатый | 12–13 | 15 | 10 |
| Лук зеленый | 15 | 18 | 16 |
| Редис (1 пучок) | – | 15–20 | 10–15 |
| Капуста квашеная | 7 | 8–10 | 5 |
| Капуста свежая | 10 | 12 | 10 |

*ДА ВЕДАМА ПАДПІСЧЫКАЎ!*

***У сувязі тым, што ў святочныя першамайскія дні (1–4 мая) друкарня не працуе, „Газета для вас" выйдзе ў суботу, 10 мая.***

● СПОРТ

# Старты і фінішы

**ШАХМАТЫ.** Івацэвіцкі Дом дзіцячай творчасці стаў месцам правядзення чатырохдзённага першынства раёна па шахматах. Месцы ў выніковай табліцы размеркаваліся ў такой паслядоўнасці: першае – слесар газакампрэсарнай станцыі Сяргей Скачкоў, другое – настаўнік Воленскай СШ Генадзь Ляўчук і трэцяе – дырэктар вучылішча ўстановы УЖ 15/5 Георгій Будзіловіч.

**ГАНДБОЛ.** Упэўненай перамогай спартсменак Баранавіцкага дзіцяча-юнацкага клуба № 1 фізічнай падрыхтоўкі завяршыліся ў Брэсце спаборніцтвы спартыўнай вучнёўскай моладзі. Чэмпіёнак трэніруе Ігар Шахоўскі. У юнакоў перамога дасталася выхаванцам ДЮСШ № 4 г. Брэста (трэнер Міхаіл Леановіч). Лепшымі ігракамі прызнаны Дзіна Цімашчук (Баранавічы) і Канстанцін Сухараў (Брэст). Усе ўдзельнікі спаборніцтваў атрымалі падарункі ад фірмы „Рубікон".

**ВЕЛАСІПЕДНЫ СПОРТ.** Адкрыты чэмпіянат нашай вобласці па веласіпеднаму спорту, прысвечаны памяці экс-чэмпіёна СССР Яўгена Мальца, прайшоў у Брэсце. У пяці ўзроставых групах бралі ўдзел 270 спартсменаў з усіх абласцей рэспублікі і г. Мінска. Брэстчыну прадстаўлялі гоншчыкі з Баранавічаў, Пінска, Бярозы, Пружанаў, Драгічына. На жаль, чэмпіянат не прынёс медалёў веласіпедыстам нашага рэгіёна. Больш-менш прыстойныя вынікі паказаў Андрэй Рулько з Баранавічаў, які быў шостым у індывідуальнай гонцы, восьмым у гонцы-крытэрыуме.

**Л. САШЫН.**

● ЗДАРЭННІ

# Загінулі дзеці

Чатырохгадовы хлопчык і шасцігадовая дзяўчынка з в. Малеч Бярозаўскага раёна раптоўна памерлі ў рэанімацыйным аддзяленні раённай бальніцы, куды яны трапілі пасля бесклапотнай гульні каля свайго дома. Судмедэксперты-за спрабуе разгадаць тайну трагічнай гібелі брата і сястры, але пакуль безвынікова. Адно ёй бясспрэчна: гэта быў яд, але які?

Эх, жыццё!.. Якое вялікае гора звалілася на звычайную вясковую сям'ю. Дай, Божа, сілы бацькам перажыць жорсткі ўдар лёсу.

**І. ЛАЎРОЎСКІ.**

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць адзін раз на тыдзень: у суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 24 красавіка ў 14.00.

Заснавальнікі У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас".



*Тыраж 530 экз.*
*Зак. 952.*